# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 46 (1029) ГОД XX 16 ЛІСТАПАДА 1975 г. ЦАНА 60 гр.

## У НАШЫХ САМАДЗЕЙНІКАЎ



**КАЛЕКТЫЎ З МЕЛЯШКОЎ**

**На сёлетнім цэнтральным аглядзе тэатральных калектываў БГКТ меляшкоўцы занялі другое месца (катэгорыя фальклорных калектываў). На здымку сцэна з „Дажынак“ — конкурснай пастаноўкі.**

**Фота Я. Цялушэцкага.**

## VII ZJAZD PZPR — БОЛЬШ! ЛЕПШ! ХУТЧЭЙ!

## СУПОЛЬНАЕ БАГАЦЦЕ

Не так даўно, 29 верасня г.г., у час сустрэчы з сялянамі гміны Дробін **Эдвард Герэк** яшчэ раз адзначыў, што: **„Зямля з'яўляецца агульнанацыянальным багаццем... і незалежна ад таго, у чыіх руках яна знаходзіцца, рацыянальнае загаспадаранне яе гэта наш грамадскі, супольны абавязак, бо за пастаўку харчоў народу ўсе мы нясем адказнасць“.**

Так, зямлёю трэба даражыць, асабліва зямлёю, якая дае плён. Умоўны палетак статыстычнага жыхара нашай краіны пастаянна змяншаецца. Чвэрць стагоддзя таму назад складаў ён яшчэ амаль 85 сотых гектара, а цяпер паменшыўся да паўгектара. Гэтыя лікі ўзяў я таксама з выступлення Эдварда Герка.

Аднак тут, у Беластоцкім ваяводстве, дзе мы жывем і працуем, зямля часта трактуецца як... зямля, якой усюды поўна, якой ніхто не хоча.

Прыпомнім: *у многіх гмінах сяляне не ведаюць нават, колькі каштуе гектар поля.*

Прыпомнім: *дзяржаўны фонд зямлі ў Беластоцкім ваяводстве склаў ужо звыш 40 тыс. га і пастаянна ён папаўняецца.*

Прыпомнім: *у нашых вёсках жыве звыш 7 тыс. гаспадароў, якіх неўзабаве трэба будзе падмяніць на гаспадарках, а падмяняць іх няма каму. Амаль 70 тыс. га больш ці менш ураджайнай зямлі астанецца тады без моцных рук.*

На шчасце, установы, адказныя за сельскую гаспадарку ў Беластоцкім ваяводстве, не адварочваюцца плячыма ад гэтых важных грамадскіх і гаспадарчых праблем. У жніўні гэтага года гэтыя справы разглядала экзекутыва ваяводскага камітэта партыі, у верасні цікавіліся імі паслы, якія прадстаўляюць Беласточчыну ў сейме ПНР, пастаянна займалася імі ваяводская сельскагаспадарчая адміністрацыя.

Дырэктар сельскагаспадарчага аддзела Ваяводскага ўпраўлення ў Беластоку Багдан Вайтулевіч сказаў мне, што:

— Кожны начальнік гміны абавязаны ў нас ведаць, хто на тэрыторыі яго

Працяг на стар. 4



**На загарадзях.** **Фота В. Рудчыка.**

## КАБ НЕ ЗАТРАЦІЦЬ ПЕРАЕМНАСЦІ

**(РАЗМОВА З АНАТОЛЕМ ГРАЧАНІКАВЫМ)**

**— Якая мэта вашага прыезду ў Польшчу?**

— З 20 па 23 кастрычніка ў Варшаве праходзіў Міжнародны форум, прысвечаны 30-годдзю другой сусветнай вайны. У ім прынялі ўдзел прадстаўнікі 20 краін Еўропы, Азіі, Афрыкі і Лацінскай Амерыкі. З СССР на форуме ўдзельнічалі генерал-лейтэнант авіяцыі, Герой Савецкага Саюза А. А. Благавешчанскі, пісьменнік А. А. Гарчакоў, загадчык аддзела інстытута гісторыі АН УССР, Герой Савецкага Саюза Ус. І. Клокаў (Украіна). Мне выпаў вялікі гонар прадстаўляць на міжнародным форуме Беларусь. Гэта сімвалічна, што ён адбыўся ў Варшаве, сталіцы ПНР. Усяму свету вядома гераічнае змаганне палякаў супраць фашызму, мы і зараз схіляем галовы перад польскімі патрыётамі, якія ахвяравалі жыццё дзеля сённяшняга мірнага дня.

Многія ўдзельнікі форума ў часе дыскусіі адзначалі вялікі ўклад савецкага і польскага народаў у справу перамогі над фашызмам. Хаця форум быў прысвечаны вынікам другой сусветнай вайны, яго ўдзельнікі шмат увагі аддалі праблемам мірнага супрацоўніцтва ў наш час, прагназавалі пытанні будучыні.

**— Вы некалькі гадоў таму назад былі ў Польшчы. Можа, сканфрантуеце свае ўражанні з „учарашняга“ і „сённяшняга“ прабывання ў Польшчы?**

— Гэта мой другі прыезд у Польшчу. І я з вялікім задавальненнем канстатую, што ўбачыў прыемныя зрухі ў сучасным жыцці польскага народа. Заможнасць, гасціннасць нашых сяброў хвалюе і радуе. Няхай гэтыя светлыя зрухі набываюць новы імпэт. Бо што можа быць найлепшым, як шчаслівае жыццё! Адметнасць любой краіны можна ўбачыць на дзецях. Я пільна прыглядаўся да дзяцей у Польшчы і пераканаўся, што яны здаровыя, вясёлыя, жыццерадасныя. Няхай іх будучыня будзе такой жа.

**— Вы намеснік старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі, вядома, што ваш Саюз пісьменнікаў многа робіць ў галіне папулярызацыі польскай літаратуры ў Беларусі. Што ў будучыні ваш Саюз намерваецца зрабіць у гэтай галіне?**

— У гэтым годзе ў Польшчы адбыліся Дні беларускай літаратуры. Польшчу наведала група вядомых беларускіх пісьменнікаў, якую ўзначальваў выдатны паэт сучаснасці Максім Танк. Дзякуючы намаганням польскіх перакладчыкаў чытач атрымаў шматлікія творы беларускіх пісьменнікаў на польскай мове. Я ведаю, што вялікай папулярнасцю ў Польшчы карыстаюцца

**(Працяг на стар. 2)**

## Новыя вершы

* * *

*Адвяслue восень на зазімкі.*
*Бакены зашыюцца пад гаць.*
*Сінія асеннія асіннікі*
*У смузе марознай зазіхцяць.*

*Ёсць у іх*
*Журба неверагодная,*
*Саладжавы і гаркавы пах,*
*Ад якога — ўсё такое роднае,*
*Што аж слёзы,*
*Слёзы на вачах.*

**Анатоль Грачанікаў**

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ“



## ПЛЕНУМ ГП БГКТ

Беларускае грамадска-культурнае таварыства заўсёды характарызавалася актыўнасцю ў рэалізацыі намечаных партыяй задач. Цяпер, у перадз'ездаўскім перыядзе, усе члены БГКТ, якія працуюць у розных галінах палітычнага, гаспадарчага і культурнага жыцця, так як увесь народ нашай краіны, ахоплены новым прылівам працоўнага ўздыму, выкліканым прынятымі Цэнтральным Камітэтам ПАРП дырэктывамі на VII З'езд пад загалоўкам „За дынамічнае развіццё сацыялістычнага будаўніцтва, за вышэйшую якасць працы і ўмоў жыцця народа“.

Задачам БГКТ у святле дырэктываў ЦК на VII З'езд партыі было прысвечана пленарнае пасяджэнне Галоўнага праўлення, якое адбылося 26 кастрычніка ў Беластоку. Перадз'ездаўскія дырэктывы, а пасля пастановы VII З'езду ПАРП актывізуюць і будуць актывізаваць бэгэкатоўскую грамадскасць на яшчэ лепшую працу ў распачынаючайся справаздачна-выбарнай кампаніі ў нашай арганізацыі і падрыхтоўцы VIII з'езду Беларускага таварыства, а таксама ў святкаванні 20-ай гадавіны існавання БГКТ. Ва ўсёй дзейнасці БГКТ неабходна таксама павышаць якасць працы.

Усе адзначаныя праблемы былі зместам даклада прэзідыума ГП, які быў зачытаны старшынёй БГКТ Мікалаем Самоцікам. У ім гаварылася: „У галіне культурна-асветнай дзейнасці БГКТ матэрыялы дырэктываў будуць папулярызавацца: падчас сустрэч з нашымі пісьменнікамі, згуртаванымі ў аб'яднанні „Белавежа“, падчас сустрэч з журналістамі „Нівы“, якія будуць адбывацца ў клубах і гуртках БГКТ, падчас дакладаў лектараў, шляхам арганізавання фотавыставак аб дасягненнях Народнай Польшчы ў апошняй пяцігодцы, шляхам арганізавання канцэртаў мастацкіх калектываў БГКТ для людзей добрай работы, а таксама шляхам узмацнення візуальнай прапаганды матэрыялаў дырэктываў на VII З'езд нашай партыі.

У галіне грамадска-карыснай дзейнасці, таварыства прымае на сябе наступныя заданні: у гарадскіх гуртках БГКТ будуць ініцыяваны абавязацельствы па арганізацыі грамадскіх пачынаў на карысць горада. У вясковых гуртках БГКТ ініцыятыўнасць яго членаў і насельніцтва будзе кіравацца на арганізаванне пасадак лесу на пустэчах і высаджванне дрэвамі дарог на працягу

**(Працяг на стар. 4)**

## Вестки з Беластока

# Слова пра „Фасты"

На ўскраіне паўночна-заходняй часткі горада Беластока размясціліся вялікія вытворчыя карпусы баваўнянага камбіната „Фасты". Праўда, назва „баваўняны" ўжо мала адпавядае праўдзе, бо бавоўны сёння да тканін дадаюць параўнальна не многа. Асноўнай сыравінай з'яўляюцца штучныя рэчывы, у тым ліку і элана.

Тут бесперапынна, на тры змены, ва ўсіх цэхах кіпіць работа, пачынаючы ад змешвання бавоўны са штучнымі рэчывамі і прадукцыі нітак і канчаючы прыгожымі матэрыяламі на плашчы, касцюмы, сукенкі, пасцель, шторы. Цяпер многія групы рабочых трымаюць тут перадз'ездаўскую вахту, павялічваючы гэтым самым дасягненні завода. Усюды багатая візуальная прапаганда, знамянуючая аб набліжаючымся VII З'ездзе ПАРП. Штодзень завод дае прадукцыі на 12 млн. злотых. На працягу года „Фасты" даюць 73 мільёны метраў тканін. Ва ўсёй Польшчы, а нават за граніцай, вядома фастаўская прадукцыя. З кожным годам не толькі павялічваецца яна, але папраўляецца якасць прадукаваных матэрыялаў і таму ўзрастае на іх попыт. З кожным годам мадэрнізуюцца машыны, што з'яўляецца гарантыяй высокай якасці. Нядаўна закончана мадэрнізацыя прадзільнага цэха, якая каштавала 120 млн. злотых.

Камбінат мае свае клопаты і хібы, але дзе іх няма. Важна аднак тое, што дырэкцыя і партыйная арганізацыя, якая налічвае тут амаль 800 чалавек, здольна з імі змагацца і перамагаць іх. Працуе тут 6 500 рабочых, тэхнікаў, майстроў і інжынераў. Большасць з іх — гэта выхадцы з вёсак былых паветаў: Сакольскага, Беластоцкага, Бельскага і Гайнаўскага. Уступілі яны ў рады рабочага класа і тут набываюць працоўныя навыкі і традыцыі. Шмат з іх — гэта перадавыя людзі свайго прадпрыемства, фатаграфіі іх можна ўбачыць у кожным цаху на ганаровых дошках. Многія з'яўляюцца рацыяналізатарамі і вынаходцамі (ёсць іх каля 200 чалавек), эфекты дзеяння якіх у бягучым годзе акрэсліваюцца сумай 60 мільёнаў злотых. Да найбольш таленавітых рацыяналізатараў залічаюцца: Адам Цюлькін, Мікалай Клікоўскі і Ян Зімнох.

З фастаўскага калектыву ёсць многа людзей, вядомых не толькі на камбінаце. 8 чалавек з'яўляюцца раднымі ваяводскай і гарадской рад нарадовых. Крыстына Юрак выбрана ў члены экзекутывы Ваяводскага камітэта ПАРП, а Уладзімір Лотыш намеснікам члена ЦК ПАРП. Фастаўская партыйная арганізацыя нядаўна самастойна выбірала дэлегата на VII З'езд нашай партыі. Удастоена гэтага выбару член партыйнага завадскога камітэта ПАРП, прадзільшчыца Вера Бяліцкая.

Кіраўніцтва завода вялікую ўвагу ўдзяляе сацыяльным справам. Тут на месцы ёсць свая паліклініка з дактарамі-спецыялістамі, у тым ліку і з стаматолагамі. Ёсць свая аптэка і нават карэтка хуткай дапамогі. Завод мае свой рэстаран „Пшонснічка", які забяспечвае харчамі ўсе сталовыя і пасобныя цэхі. Апрача таго, ёсць тут дзве спажывецкія крамы, у якіх рабочыя многа чаго купляюць, каб, вярнуўшыся дамоў, не бегаць па крамах. Камбінат мае таксама свае сталыя цэнтры адпачынку ў Карвіцы (Сувальскае ваяводства) і ў Дакторцах (Беластоцкае ваяводства). Яны разбудоўваюцца і паляпшаюцца.

Асобны раздзел у працоўнай гісторыі камбіната — гэта супрацоўніцтва з такімі ж заводамі ў Гродне і Каўнасе. З імі „Фасты" абменьваюцца вопытам, рабочыя прадпрыемстваў бываюць адзін у другога ў гасцях.

Бягучы год у дзейнасці камбіната — спецыфічны год, багаты ў юбілеі. 20 год таму назад у лістападзе ён даў першую прадукцыю. У лістападзе гэтага года завадскі двухтыднёвік газета „Фасты" будзе адзначаць соты нумар свайго часопіса. 10 год мінае мясцоваму мастацкаму калектыву, які добра вядомы ў нашым горадзе.

Завадскі калектыў „Фасты" сустракае VII З'езд ПАРП з добра выкананым абавязкам: даў дадатковай прадукцыі на 26 млн. злотых.

**Міхась Хмялеўскі**

## Наша галерэя



**Асецкі Л. П. „Высотныя дамы на Прывакзальнай плошчы" (Мінск). Лінагравюра.**

## Што новага?

# Як задушылі грамадскі транспарт

„Лос-Анджэлес — гэта сёння экалагічная пустыня. Пальмы гінуць ад нафтахімічнага смогу. Апельсінавыя дрэвы знішчаны 300 мілямі брукаваных дарог. Паветраная прастора ператварылася ў ядавіты рэзервуар, у які чатыры мільёны аўтамашын штодзённа напампоўваюць 13 тысяч тон атрутных рэчываў".

Так апісаны гэты горад, які лічыўся некалі жамчужынай Паўднёвай Каліфорніі, у даследаванні, падрыхтаваным для антытрэстаўскага падкамітэта амерыканскага сената.

Быў час, калі Каліфорнія не пакутавала ад ядавітага смогу. Сетка электрычных чыгуначных ліній у асноўным забяспечвала патрэбнасці ў гарадскім грамадскім транспарце. Буйная кампанія „Пасіфік электрык" з капіталам у сто мільёнаў долараў эксплуатавала тры тысячы электрапаяздоў.

Але гадоў сорак таму назад на электрычны гарадскі транспарт пачалі планамернае наступленне аўтамабілебудаўнічыя канцэрны пры актыўным удзеле нафтавых манаполій. Удзельнікі даследавання прааналізавалі на прыкладзе Каліфорніі метады, якія прымяняліся пры гэтым. Канцэрн „Джэнерал мотарс" стварыў разам з манаполіяй „Стандарт ойл оф Каліфорнія" і кампаніяй па вытворчасці аўтамабільных шын „Файрстоўн" аўтобусную кампанію „Нэшнл сіці лайнс". Гэта кампанія з дапамогай шматлікіх субпадрадчыкаў разгарнула шалёнае канкурэнтнае наступленне на ўладальнікаў электрычных чыгунак. А дзе канкурэнцыя не дапамагла, скуплялі лініі электрычкі і... знішчалі іх, прадаючы рэйкі на пераплаўку. Асабліва актыўна канцэрн дзейнічаў у багатай Каліфорніі. „Джэнерал мотарс" разам са сваімі саюзнікамі разбурылі да 1960 года больш чым сто электрычных ліній у 45 гарадах, у тым ліку ў такіх вялікіх, як Лос-Анджэлес, Нью Йорк, Філадэльфія, Балтымор, Сент-Луіс.

Так аўтамабільныя гіганты „Джэнерал мотарс", „Форд" і „Крайслер" з дапамогай розных камерцыйных хітрыкаў перасадзілі амерыканцаў, як паказана ў даследаванні, на „вялікія, легкавыя аўтамабілі і грузавікі", якія прагна пажыралі бензін, забяспечваючы сабе астранамічныя прыбыткі.

Магчыма, гэта даследаванне не было б праведзена і ўжо ва ўсякім разе не паступіла б у сенацкі падкамітэт, калі б не цяперашні востры энергетычны крызіс, які прымусіў амерыканскіх заканадаўцаў захваляваўца. Аб гэтым сведчыць і вывад даследавання:

„Недахват паліва для матарызаванага транспарту і адсутнасць належнага грамадскага транспарту пагражаюць цяпер парушыць жыццё ўсіх раёнаў, якія залежаць ад аўтатранспарту".

**В. Розен**

(Працяг са стар. 1)




творы А. Адамовіча, В. Быкава, Я. Брыля, І. Шамякіна, І. Мележа, п'есы А. Макаёнка.

Зараз у беларускай літаратуры актыўна працуе пакаленне, дзяцінства якога апаліла трагічнае полымя ваеннага часу. Сярод іх — Р. Барадулін, Г. Бураўкін, А. Вярцінскі, М. Макаль, І. Пташнікаў, Б. Сачанка, І. Чыгрынаў. Мы б хацелі мацаваць сувязі з ідэнтычным пакаленнем польскіх пісьменнікаў. Каб традыцыйныя сувязі нашых літаратур не гублялі сваёй пераемнасці. Менавіта гэтаму павінны паслужыць Дні польскай літаратуры ў Беларусі, што адбудуцца ў наступным годзе. Беларускія перакладчыкі з польскай мовы да гэтых Дзён рыхтуюць новыя працы з сучаснай паэзіі і прозы.

**— Раскажыце, калі ласка, аб сваёй творчасці, аб сваіх дасягненнях і намерах.**

— Нядаўна ў Мінску выйшаў мой новы зборнік вершаў „Начная змена". Гэта вынік апошніх трох год маёй творчай працы. Цяжка аўтару рабіць ацэнку зробленага. Скажу толькі, што ў ім я імкнуўся выказаць свае адносіны да разумення дабра і зла, да праблем, якія ў наш час хвалююць людзей: прырода і чалавек, навукова-тэхнічная рэвалюцыя і чалавечая свядомасць.

У гэтым годзе пісаў мала. Шмат падарожнічаў па Савецкаму Саюзу, ёсць задумы, якія трэба яшчэ рэалізаваць у мастацкай форме. Так што хваліцца няма чым.

**— Вы, мабыць, чытаеце „Ніву". Што вы хацелі б сказаць аб нашым часопісе, што хацелі б пажадаць нашым чытачам?**

— Так. Я пастаянны чытач „Нівы". Мне вельмі прыемна бачыць на старонках матэрыялы, якія цесна звязаны з жыццём чалавека. Газета робіць вялікую справу, калі расказвае пра лепшыя дасягненні працаўнікоў, калі смела выкрывае заганы і недахопы ў жыцці. Асабліва мне падабаецца тое, што газета пастаянна змяшчае фальклорныя песні, пачутыя і запісаныя з вуснаў народных выканаўцаў. Гэты залаты духоўны скарб варта надалей адшукваць і вяртаць яго шырокім масам чытачоў.

Набліжаецца VII З'езд Польскай аб'яднанай рабочай партыі, і я хацеў бы пажадаць чытачам „Нівы" сустрэць яго ў заможнасці, добрым здароўі і шчасці ў кожнай сям'і, у кожнай хаце.

Размаўляў **Алесь Барскі**

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Sobota 15.XI.** 6.00 Tech. Rol. Mat. 6.30 Zool. 9.00 Dla szkół: (kl. VIII) Nauka o czł. Odżywianie człowieka. 10.00 (kl. VII) Zool. Pasożyty człowieka i zwierz. 10.30 Zawodowcy — film TVP. 13.45 Tech. Rol. J. pol. 14.30 Hod. zwierz. 15.25 Red. Szk. zap. 15.35 Pr. I prop. 15.50 Pr. dnia. 15.55 Dzien. 16.05 Obiektyw. 16.25 Czy nastanie era słońca — film pop. nauk. 16.55 Sport dla Ciebie. 17.10 Świat specjalnie dla mnie — rep. film. 17.35 Sobota Młodych. 18.35 Sprawy Polaków — pr. publ. 19.20 Dobr. 19.30 Monitor. 20.20 Godzina rozpaczy — film fab. USA. 22.10 Dzien. 22.30 Sport. 22.45 Pr. rozr. 23.45 Opowieści Star. Pana.

**Niedziela 16.XI.** 6.15 Tech. Rol. J. pol. 6.45 Hod. zwierz. 7.15 Kurs Rol. 7.50 Przyp., radz. 8.00 Alarm przeciwpoż. trwa. 8.10 Now. w domu i zagr. 8.35 Bieg po zdr. 8.55 Sport. 9.00 TELERANEK. 10.20 Antena. 10.45 Z myśli i pracy — film dok. 11.45 Lekt. Pegaza. 12.05 Dzien. 12.25 Tydzień. 12.55 Operowe qui pro quo (III). 13.45 Dla dzieci: Teatr Bajek — J. Ch. Andersen — Kalosze szczęścia. 14.40 BANK MIAST (I) — OPOLE LUB. — ZWOLEŃ. 15.55 Los. Duż. Lot. 16.10 Refl. ob. 16.25 Postaw się, nie zastaw się. 17.10 Sport. 18.00 BANK MIAST. 18.10 Tele-Echo. 19.15 Wieczor. 19.30 Dzien. 20.20 BANK MIAST. 20.25 Bajka dla dor. 20.35 Rodzina Whiteoaków — film ser. kan. 21.35 BANK MIAST. 22.20 Wieczorny gość — MIECZYSŁAW CZECHOWICZ. 22.50 Sport.

**Poniedziałek 17.XI.** 12.45 Tech. Rol. Bot. 13.25 Mech. rol. 15.55 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Zwierzyniec. 17.40 Echo stad. 18.05 Dzień po dniu — film ser. radz. 19.00 Mam pomysł. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Teatr TV: J. Iwaszkiewicz — Stara cegielnia. 21.20 Panorama. 22.05 Dzien. 22.25 Sport. 22.35 Boby Solo — recital pios.

**Wtorek 18.XI.** 6.00 Tech. Rol. Bot. 6.30 Mech. rol. 8.30 Rodzina Whiteoaków — film ser. kan. 10.00 Dla szkół: (kl. VI) J. pol. W. Katajew „Samotny biały żagiel". 12.00 (kl. VIII) Hist. Nauka i technika w Polsce międzywoj. 13.45 Tech. Rol. Mat. 14.30 Mech. rol. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Nie tylko dla pań. 17.25 Znaki czasu. 17.50 Studio Mł. 18.40 Fakty, Op., Hip. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Przyp., radz. 20.25 Wielka przemiana — film ser. radz. 21.30 Interstud. 22.15 Dzien. 22.35 Sport.

**Środa 19.XI.** 6.00 Tech. Rol. Mat. 6.30 Mech. rol. 8.30 Wielka przemiana — film ser. radz. 10.00 Dla szkół: (kl. VI) Fiz. Zasady dynamiki. 11.05 (kl. VIII) Nośniki ładunków w cieczach i gazach. 12.45 Tech. Rol. Upr. rośl. 13.25 Hod. zwierz. 15.50 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Dla dzieci: Entliczek-Słowniczek. 17.30 Los. Mał. Lot. 17.45 Inf., Tow., Prop. 17.55 Patrol. 18.15 Czytamy Żeromskiego — teletur. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Reguły gry — film fab. fr. 21.50 Czym żyje świat. 22.20 Dzien. 22.40 Sport.

**Czwartek 20.XI.** 6.00 Tech. Rol. Upr. rośl. 6.30 Hod. zwierz. 9.00 Dla szkół: (kl. I lic.) J. pol. J. Kochanowski Pieśni czarnoleskie. 9.30 Reguły gry — film fab. fr. 12.55 Dla szkół: (kl. III—IV lic.) J. pol. St. Żeromski. 13.45 Tech. Rol. Fiz. 14.30 Upr. rośl. 15.05 Mat. w szkole. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Ekran z bratkiem. 18.05 Z kamerą w TV Leningrad — rep. film. 18.35 Sprawy Polaków — pr. publ. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Przyp., radz. 20.25 Teatr Sens. E. J. Mason i T. Willis. Epidemia zbrodni cz. I. 21.25 Pegaz. 22.10 Dzien. 22.30 Sport.

**Piątek 21.XI.** 6.00 Tech. Rol. Fiz. 6.30 Upr. rośl. 9.00 Dla najmł. (kl. III) w dawnej stolicy Polski. 9.30 Śmiertelny wróg — film fab. radz. 11.05 Dla szkół: (kl. VII) Wych. ob. Now. i postęp w produkcji. 12.00 (kl. VII) Geogr. Republiki zakaukaskie ZSRR. 12.45 Tech. Rol. Mat. 13.25 Zool. 15.50 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Pora na Telesfora. 17.35 Zrób to sam. 18.00 Inf. Wyd. 18.15 Mała Encykl. zwierz. 18.50 Sezam. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Mój program przedst. LESZEK HERDEGEN. 21.20 Panorama. 22.05 Recital Elżbiety Adamek. 22.30 Gospodarność i ja. 22.45 Dzien. 23.00 Sport. 23.10 Inf., tow., prop.

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 14.X.** — 8.15 Film fab. 17.30 Film fab. 19.30 Spektakl. 20.40 Sala tańców.

**Sobota 15.XI.** — 8.30 Film fab. 16.15 W świecie zwierząt. 17.15 Piosenka — 75. 17.40 Film fab. 20.45 Koncert.

**Niedziela 16.XI.** — 9.45 Koncert. 12.00 Film fab. 13.25 Koncert. 15.00 Panorama międzynar. 15.30 Filmy anim. 16.15 Klub film. 17.05 P. nożna. Dynamo (Kijów) — Torpedo. 18.45 Śpiewa A. Sołowianienko. 19.30 Uroczysty wieczór.

## КІНО

**Białowieża** Dom i gospodarz — radz. 18—19. Żenia, Żenieczka katiusza — radz. 20—21. Świeć moja gwiazdo — radz. 23—24.
**Czeremcha** My z Kronsztadtu — radz. 18—19. Ewakuacja — radz. 22—23.
**Czyże** Awans — pol. Legenda — pol. 19—23.
**Dubicze Cerkiewne** Faraon — pol. Hasło Korn — pol. 19—23.
**Gródek** Dom i gospodarz — radz. 22—23.
**Kleszczele** Przerwany lot — pol. 18—19. Nowy — pol. 20—21. Ruchome piaski — pol. 22—23.
**Michałowo** Anna Karenina — radz. 18—19. Ludzie i bestie — I s. radz. 20—21. Ludzie i bestie — IIs. radz. 22—23.
**Mielnik** Korsarze Pacyfiku — I s. radz. 19. Korsarze Pacyfiku — II s. — radz. 22—23.
**Milejczyce** Był sobie drozd — radz. 18—19. Dom na rozstajach — radz. 20—21. Bariera — radz. 22—23.
**Narew** Jadą goście, jadą — pol. Drewniany różaniec — pol. 19—23.
**Narewka** Pierścień księżnej Anny — pol. Paryż-Warszawa bez wizy — pol. 19—23.
**Nurzec** Ruchome piaski — pol. 18—19. Miasto niezwykłe Warszawa — pol. 20—21. Agent Nr 1 — pol. 22—23.
**Orla** Jak być kochaną — pol. Ewa chce spać — pol. 19—23.
**Rajsk** Przygody psa Cywila — pol. Jak być kochaną — pol. 19—23.
**Suchowola** Wystrzał — pol. Z tamtej strony tęczy — pol. 19—23.

B.Z.Graf. Zam. 2749. P-1.



# Кляшчэлі

Побач іх імчацца, не сцішаючы лёту, паязды, а цераз іх праскокваюць аўтамабілі. Ад'язджаюць некуды і прыязджаюць аднекуль людзі, натхнёныя або змучаныя ашалелай хуткасцю сённяшняга дня. Цераз газеты з кіёска, што прытуліўся да каменнай царкоўнай агароджы, радыёпрыёмнікі і тэлевізары, якія гудзяць у кожнай хаце ў покуці пад пачарнеўшымі ад даўнасці іконамі, — урываецца ў застыўшую ціпшыню бурлівы новы свет. А хаты глядзяць на яго прыбляклымі ад жыццёвай мудрасці вачамі-вокнамі, дзівуюцца спешцы, спрабуюць на сіце вопыту, што пакінулі ім адышоўшыя пакаленні, адсеяць дабро ад зла. А пакаленняў было мноства, і сіта густое...

Ад самага 1523 года, калі кароль Зыгмунт І узвысіў прысеўшую на скраю Белавежскай пушчы, паабапал рухлівага гасцінца з Бярэсця ў Гарадню, занапаўшую вёсачку да ролі каралеўскага „места", няспыннай чарадою паплылі гады, дзесяцігоддзі і стагоддзі ў поклічы купцоў, што падаваліся з кляшчэлеўскім соладам, воскам ды агуркамі ў далёкі казачны Крулевец, у звоне молатаў руднікаў-кавалёў, у шыпенні пеністага піва, у ззянні кропель залатога сычанага мёду. А млынары Сухавалевічы, Качэвічы, Балтовічы, Чыжэвічы, Шаршаневічы, Смяшковічы і дзесяткі іншых кожную раніцу, падымаючы застаўкі на грэблі і пускаючы ваду на млыновыя колы, па птахах на спарахнелых вербах згадвалі, ці вялікі будзе завоз.

Адплылі ў нябыт тыя дні.

Дрэмлюць у цені дзічак-груш свіронкі, скрыпучы даўганосы жораў заглядзеўся ў акаймаванае мяккімі павекамі імху таямнічае вока драўлянай студні. Так і цягне прымусіць яго дзюбу акунуцца ў халодны змрок, каб потым глынуць з драўлянага цабэрка-вядра сцюдзёнай, што аж дух займае, вады і ў ёй, прыкрашанай струхлелым дрэвам, адчуць смак далёкай мінуўшчыны.

**Мікалай Гайдук**
Фота аўтара







## *Гартаючы кніжкі*

### У СВЕЦЕ АСАЦЫЯЦЫЙ

Хоць свой першы зборнік паэзіі „Калісьці гэта значыць ніколі" Ежы Плютовіч*) выдаў толькі ў бягучым годзе, але яго творы, пачынаючы з 1967 года, паяўляліся ўжо на старонках „Poezji", „Twórczości", „Współczesności", „Kultury" і „Kontrastów", а таксама ў альманахах. У перакладзе на беларускую мову публікавала іх таксама і наша „Ніва". Словам, творчыя пошукі паэта, які піша: *„нарадзіўся я 30 студзеня 1947 года ў Бельску, падляшскім горадзе, малым, як сляза"*, сталі прыкметнай з'явай на ландшафце сучаснай маладой польскай паэзіі.

І гэта не выпадкова: лірыка Е. Плютовіча прыцягвае перш за ўсё навізной формы. Калі гаварыць спрошчана, ён піша не вобразамі, а асацыяцыямі, у якіх закадаваны свет пачуццяў лірычнага героя. Гэтая форма паэтычнага выказвання не належыць да лёгкіх ва ўспрыйманні. Чытач, выхаваны на традыцыйнай апісальніцкай паэзіі, не адразу здольны асвоіць або нават разгадаць сэнс выказвання аўтара. Патрабуюцца немалыя намаганні думкі і доўгія разважанні, каб магчы ўвайсці ў герметычна закрыты свет гэтай творчасці. Але калі, урэшце рэшт, гэта яму ўдаецца, абшар нязведаны і цікавы адкрываецца перад ім! Знаходзім тут глыбокае адчуванне аўтарам няўмольнага працэсу бясследнага праміпання чалавечай істоты, яе вечнай бязмоўнай прысутнасці ва ўсім жывым і мёртвым, з чаго складаецца наш навакольны свет, балючыя развітанні з бацькоўскім парогам і радасныя вяртанні пад родную страху з далёкіх і цяжкіх падарожжаў, каханне і цэлы пераблытаны клубок асалоды і горычы з ім звязаны, наогул — жыццё. І так, як у ім, у творах Е. Плютовіча сутыкаецца шляхетнае з агідным, светлае са змрочным, а гэтае непасрэднае супастаўленне кантрасных, непрымірымых, варожых сабе асацыяцый яшчэ мацней падкрэслівае глыбіню перажыванняў.

Жадаючы Е. Плютовічу далейшых яшчэ больш плённых вандровак па неабсяжных абшарах яго асацыяцый, цешымся, што ў сучаснай маладой польскай паэзіі чутны голас і яго — нашага земляка.

**І. Снарскі**

*) Jerzy Plutowicz, niegdyś to znaczy nigdy, „Iskry", Warszawa 1975, стар. 96, цана 10 зл.

# СКАРЫНІНСКІ ВЕЧАР У ВАРШАВЕ

**23** кастрычніка ў памяшканні варшаўскага аддзела БГКТ адбыўся вечар, прысвечаны жыццю і творчасці выдатнага беларускага гуманіста Францішка Скарыны. Са змястоўным дакладам выступіў кіраўнік кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта др Аляксандр Баршчэўскі.

Вялікая цікавасць да жыцця і імкненне да ведаў, як падкрэсліў дакладчык, былі найбольш характэрнымі рысамі жыццёвага шляху Скарыны. Полацк, Вільня, Кракаў, Прага, Падуа, Познань, Кенігсберг і Майнц — такі далёка няпоўны пералік этапаў скарынінскіх вандровак па Еўропе. „І на ўсходзе і на захадзе — шукайце!", — заклікаў ён сучаснікаў. Вынікам гэтых пошукаў быў, між іншым, дыплом доктара лекарскіх навук, першага бадай доктара ў Вялікім княстве Літоўскім. Але не гэты здабытак запэўніў Скарыне бессмяротнасць. Важнейшай яго заслугай было запачаткаванне кнігадрукавання на старабеларускай мове (1517-1525 г.г.), што і было яскравым выражэннем успрынятых Скарынай ідэй адраджэння і іх прымянення да ўмоў Беларусі пачатку XVI стагоддзя.

Паколькі да гэтага часу ўся беларуская літаратура складалася з твораў, якія пісаліся на старажытнарускай мове, узнікшай на базе царкоўнаславянскай мовы, пачын Скарыны выдаваць кніжкі на мове, зразумелай свайму народу, меў падвойнае значэнне. Па-першае, сведчыць ён аб смелым рашэнні вызваліцца з пут царкоўнаславянскай традыцыі і, па-другое, пачынае працяглы перыяд пісьменнасці на старабеларускай мове, „Беларусы не гусі і сваю мову маюць", — так можна акрэсліць, выкарыстоўваючы парафразу вядомай сентэнцыі бацькі польскай літаратуры Мікалая Рэя, скарынінскі першадрукарскі пачын.

Пачатая Францішкам Скарынай друкарская справа знайшла ў далейшым шырокае развіццё ў Беларусі, а таксама і ў іншых усходнеславянскіх краінах. Выкарыстоўваючы вопыт і майстэрства Скарыны, яго вучні і супрацоўнікі Іван Фёдараў і Пётр Мсціславец арганізавалі праз некалькі дзесяткаў год кнігадрукаванне ў Расіі і на Украіне.

У парадку абмеркавання даклада закраналіся розныя аспекты дзейнасці і ролі Францішка Скарыны, як напрыклад, тагачасныя сацыяльныя і культурныя ўмовы Вялікага княства Літоўскага, скарыніяна ў свеце, справа ўвекавечання памяці нашага першадрукара і інш. Цікавыя элементы, звязаныя з жыццём Скарыны, ўнеслі падчас дыскусіі Юры Туронак, Хвёдар Галёнка, Павел Дзекайла. Дыскусія не была пазбаўлена палемічных акцэнтаў. У час вечара дэманстравалася скульптура Францішка Скарыны, зробленая мастаком Мікалаем Валкавыцкім і перададзеная ім варшаўскаму аддзелу БГКТ.

**Зінаіда Туронак**

## *Наш каляндар*

### РЫГОР ПУКСТ

Ён свой творчы шлях пачынаў як харыст і музыкант у гуртку мастацкай самадзейнасці, а завяршыў яго будучы прафесарам кансерваторыі і аўтарам дзвюх опер, пяці сімфоній, некалькіх кантатаў і камерных інструментальных твораў, а таксама многіх дзесяткаў песень, што і па сённяшні дзень не сыходзяць з рэпертуару не толькі беларускіх выканаўцаў, але карыстаюцца заслужанай папулярнасцю ва ўсім Савецкім Саюзе.

Р. Пукст выйшаў з рабочага асяроддзя. Нарадзіўся ён 14 лістапада 1900 г. у сям'і чыгуначніка ў г. Гомелі. Вучыўся ў тэхнічным вучылішчы. Калі на сям'ю звалілася гора — трагічная смерць бацькі, — усе клопаты аб утрыманні родных ляглі на яго плечы. Ён пайшоў працаваць памочнікам машыністы, потым стаў вадзіць эшалоны па прасторах маладой Савецкай Рэспублікі як самастойны машыніст. Працаваць яму даводзілася тады ў неймаверна цяжкіх умовах: яшчэ палала Грамадзянская вайна, чыгунка была разбурана, на цягнікі нападалі банды. І ўсё ж Р. Пукст патрапіў вылучаць час на ўдзел у мастацкай самадзейнасці. Песня і музыка клікалі яго, паланілі. І ён самавукам вывучае асновы музычнай граматы, няспынна і прагавіта паглыбляе свае веды ў гэтай галіне, а ў 1923 г. паступае ў клас кампазіцыі Маскоўскай кансерваторыі, якую заканчвае ў 1928 г. Час навукі ў кансерваторыі — гэта перыяд першых і ўдалых самастойных кампазіцый. Тады ён піша некалькі інструментальных п'есаў, песень, цыкл рамансаў, займаецца апрацоўкай беларускіх народных песень. Пасля заканчэння кансерваторыі плённа спалучае выкладчыцкую працу ў музычных тэхнікумах з творчасцю. Паяўляюцца яго Першая сюіта на тэмы беларускіх народных песень (1930 г.) і Першая сімфонія (1934 г), а з друку выходзяць штораз новыя песні на словы беларускіх і рускіх паэтаў. Выканаўцы і слухачы з адабрэннем успрымаюць усе новыя творы кампазітара. У іх адчуваецца ўласцівы беларускаму меласу далікатны лірызм і тхненне новага, што ўносіла ў жыццё беларускага народа савецкая рэчаіснасць. Кампазітар усёй душой адчуваў поступ краіны, ішоў поруч з ёю і даваў гэтаму выраз сваімі *„Маршам другой пяцігодкі"*, *„Чырвонаармейскай"*, *„Творчым наступам"*, *„Паэмай аб Чырвонай Арміі"* і дзесяткамі іншых твораў. А калі на Савецкі Саюз напалі гітлераўскія захопнікі, ён пайшоў на фронт, уступіў у франтавую канцэртную брыгаду, каб палымянай песняй узмацняць і натхняць салдат і афіцэраў на барацьбу ў імя абароны радзімы.

Пасля вяртання ў вызвалены Мінск Р. Пуксту выпала нялёгкая роля як выкладчыку адбудоўваць і развіваць Беларускую кансерваторыю, музыкальныя тэхнікум і вучылішча. З 1952 г. ён — музыкальны кіраўнік Беларускага радыё. Але мноства заняткаў не здолела адарваць яго ад напружанай і плённай творчай працы. Паўстаюць яго чарговыя сімфоніі і кантаты, оперы *„Машэка"* і *„Марынка"*, музыка да фільмаў *„Пяюць жаваранкі"* і *„Світанне"*, многія хоры і сольныя песні, апрацоўкі беларускіх народных песень. І ўсе яны выплывалі з любові да народа, да роднага краю, да тых пераўтварэнняў у ім, што з кожным днём харашылі і ўзбагачалі яго аблічча. Глыбокі гуманізм, пашана да чалавека працы і ўшанаванне беларускай музыкальнай народнай традыцыі — вось адметныя рысы творчасці Р. Пукста.

Памёр кампазітар 11 лістапада 1960 г.

(ic)

Пачатак на стар. 1

## СУПОЛЬНАЕ БАГАЦЦЕ

дзейнасці пераймае дзяржаўны фонд зямлі, каму перадаць у загаспадаранне тыя гаспадаркі, уласнікі якіх аддаюць зямлю дзяржаве за пажыццёвую пенсію, або іншым шляхам пераходзіць яна на ўласнасць дзяржавы. Асноўны цяжар загаспадарвання гэтай зямлі прыпадае дзяржаўным вясковым гаспадаркам і сельскагаспадарчым гурткам. ПГР-ы абавязаны ўзяць звыш 20 тыс. га дзяржаўнага фонду зямлі. Столькі ж поля дастанецца спулдзельням сельскагаспадарчых гурткоў. Спулдзельні прадукцыйныя маюць абавязак загаспадарыць 15 тыс. га, а амаль 10 тыс. га найгоршага поля перадаем лясной адміністрацыі для залясення.

— Хачу падкрэсліць, — адзначыў дырэктар Вайтулевіч, — што гэта праблема вельмі складаная, цяжкая. Мы бярэм ад сялян зямлю найчасцей вельмі запушчаную, раскінутую па невялічкіх дзялянках, а сучасная сельская гаспадарка патрабуе прастору.

— Ці ў сувязі з гэтым плануецца ўтварэнне нейкіх буйнейшых сельскагаспадарчых комплексаў?

— Яны ўзнікаюць кожны год. Для прыкладу: у Нарве, у Крынках, у Саколцы, у Палічнай і ў іншых мясцовасцях Беластоцкага ваяводства. Аднак найбуйнейшым сельскагаспадарчым камбінатам мае быць дзяржаўная гаспадарка, якую хочам арганізаваць між Міхаловам і Гарадком. Пакуль што мы называем яе ўмоўна **„Верхняя Супрасль“**. Гэты ПГР пераняў бы дзяржаўны фонд зямлі ў гмінах Міхалова, Шымкі і Гарадок — разам звыш 10 тыс. га.

— Хачу яшчэ адзначыць, — гаварыў мне далей дырэктар Вайтулевіч, — **што нашымі тарфянішчамі, якія распасціраюцца ў Імшары за Міхаловам, зацікавіліся спецыялісты з інстытута агародніцтва і прапануюць нам стварыць пад іх апекай спецыялістычную гаспадарку плошчаю ў 400 га**. Гэта на пачатак, для спробы. А як усё пойдзе паспяхова, дык гэты агародніны камбінат можна будзе павялічыць удвая.

Гектары, лікі, планы. А гэта ж трэба ажыццяўляць. Патрэбны людзі, патрэбна тэхніка, патрэбны аграмадныя грошы. Паўтара мільярда злотых на адны толькі новыя капіталаўкладанні і нейкіх 1 800 штук трактараў, каб салідна загаспадарыць усю дзяржаўную зямлю ў Беластоцкім ваяводстве.

Патрэбна паслядоўнасць і дысцыпліна дзеяння.

**„Грамадская дысцыпліна ў выпадку вёскі,** — звяртаючыся да прадстаўнікоў гміны Дробін, гаварыў **Эдвард Герэк,** — зводзіцца перш за ўсё да выдатнага выконвання сваіх абавязкаў, да тэрміновага ажыццяўлення ўсяго таго, што сяляне абавязаліся даць дзяржаве“.

**М. Нурэцкі**

## ГС у Заблудаве

Гмінная спулдзельня ў Заблудаве абслугоўвае шырокую акругу. Забяспечвае яна жыхароў Заблудаўскай гміны хлебам, вяндлінай, газіраванымі напіткамі ды іншымі прадуктамі, на якія ёсць усё большае запатрабаванне. Таму праўленне заблудаўскага ГС пастанавіла пабудаваць новую пякарню, разлеўню газіраваных напіткаў і каўбасную.

Напіткавытворчы завод быў аддадзены ў карыстанне ўжо ў чэрвені гэтага года. Каштаваў ён 5 мільёнаў 300 тысяч злотых. Цяпер працуе на ім 16 чалавек, па 8 на адну змену. Новы завод-разлеўня прадукуе на працягу дня 25 тысяч бутэлек аранжады, сталовай вады, мандарынкі і розных фруктовых напіткаў. Але можа ён прадукаваць яшчэ больш у залежнасці ад запатрабавання. На заводзе абсталяваны сучасныя машыны-аўтаматы, прыстасаваныя да паточнай вытворчасці. Разлеўняй загадвае Яўген Сліжэўскі.

У лістападзе гэтага года паступіць у продаж хлеб з новапабудаванай з 4 млн. 600 тыс. злотых пякарні ў Заблудаве. Новая, поўнасцю механізаваная пякарня будзе пячы шэсць тон хлебабулачных вырабаў у суткі. Дойдуць яшчэ кандытарскія вырабы, якіх дагэтуль пяклі ў Заблудаве вельмі мала і не ўсім жадаючым іх хапала.

У новай пякарні будзе працаваць 12 чалавек.

Варта дадаць, што ў разлеўні і ў пякарні створаны значна лепшыя ўмовы працы, чым былі яны на старых прадпрыемствах. (ця)

## 5 КІЛАМЕТРАЎ ЗА 15 ГОД

Ці можа будова 6 кіламетраў дарогі цягнуцца аж 15 год? Аказваецца, можа. Гэтаму доказ шасцікіламетровы адрэзачак дарогі паміж вёскамі Апака Вялікая і Палічная ў Чаромхаўскай гміне. Гісторыя гэтай пабудовы магла б скласці аб'ёмісты том, і было б у ім што пачытаць! Але пакуль гэты займальны твор не напісаны, раскажам коратка.

Усё пачалося ў 1960 годзе, калі па ініцыятыве апакаўчан грамадская рада ў Палічнай пачала гэтую будову. Цягнулася яна доўга, але ўсё ж упраўленне мясцовых дарог у Гайнаўцы пры дапамозе грамадскіх чыноў жыхароў Апакі праклала 5 км ладнай жвіроўкі. Аднак у мінулым годзе гэты слімаковы поспех узяў ды зусім спыніўся. Быццам бы выйшлі непаладкі са жвірам. Але вось жвір у Апацы знайшоўся, а кіламетровы кавалак недаробленай дарогі як ляжаў, так і ляжыць. Ломяць на ім восі сялянскія вазы, машыны розных прадпрыемстваў, а хуткай дапамогі з Гайнаўкі да хворага ў Апаку і не даклічашся — баіцца, каб не застраць. Няласкавым словам памінаюць незадачлівых будаўнікоў таксама і шафёры, што кожны дзень возяць вучняў з Апакі ў зборную васьмікласную школу ў Палічнай. Цяжка і дарослым апакаўчанам чакаць, што неўзабаве прадоўжыцца лінія ПКС-у з Палічнай ў іх сяло, і яны змогуць, бы людзі, куды трэба, даехаць.

А што на гэта гміннае ўпраўленне ў Чаромсе ды ўпраўленне мясцовых дарог у Гайнаўцы? Ці Апака Вялікая будзе чакаць яшчэ пятнаццаць год? (іс)



(Працяг са стар. 1)

### ПЛЕНУМ ГП БГКТ

восені, а таксама наладжванне рамонту ды будаўніцтва дарог, клубаў і іншых аб'ектаў грамадскага прызначэння, будуць ініцыяваны індывідуальныя абавязацельствы на карысць уласных гаспадарак, або паасобных месц работы, асабліва сярод розных спецыялістаў“.

26 лютага 1976 года споўніцца 20 год нашаму Беларускаму таварыству. І ў сувязі з гэтым распачынаючаяся справаздачна-выбарная кампанія ў БГКТ, якая будзе працягвацца да канца сакавіка 1976 года, спалучыцца са святкаваннем дваццацігоддзя. Аб гэтым гаварылася ў дакладзе. Аб гэтай юбілейнай даце і аб хвалюючых справах БГКТ гаварылася шмат у дыскусіі, у якой выступілі Янка Зенюк з Беластока, Аляксандр Баршчэўскі з Варшавы, Анна Красько з Гданьска, Міхась Вішанка з Мілейчыц, Галена Тапалянская з Трасцянкі, а таксама Юрка Туронак і Хведар Галёнка з Варшавы.

Падкрэслілі яны неабходнасць яшчэ больш актыўнай дзейнасці БГКТ, большага супрацоўніцтва гурткоў БГКТ з вясковымі клубамі, дапамогі настаўнікам у павышэнні кваліфікацыі, выдавецкай дзейнасці і арганізавання аўтарскіх сустрэч як членаў літаратурнага аб'яднання „Белавежа“, так і іншых лектараў БГКТ. У дыскусіі выступіла таксама намеснік старшыні Ваяводскай рады нарадовай Леакадзія Зіневіч, якая сцвердзіла, што БГКТ мае добры клімат да працы. Неабходна яму толькі быць больш экспансіўным, больш патрабавальным.

У пачатку пленума Леакадзія Зіневіч уручыла 4 нашым членам: Янку Зенюку, Аляксандру Баршчэўскаму, Міхасю Вішанку і Янку Крупу сярэбраныя значкі „Заслужаны Беласточчыне“.

Выбраная камісія ў асобах Юркі Туронка, Аляксандра Іванюка і Валянціны Андрэюк, выслухаўшы даклад і дыскусію, падрыхтавала прапановы, якія прыняў пленум.

**М. Хмялеўскі**

У гонар VII З'езду партыі

## Грамадскі пачын у гміне Нараўка

У нядзелю, 19 кастрычніка, адбыўся масавы грамадскі пачын жыхароў Нараўчанскай гміны ў гонар VII З'езду партыі. Удзельнічалі ў ім рабочыя шматлікіх установ і прадпрыемстваў, сяляне, школьная моладзь. Жыхары Гушчэвіны будавалі краму непадалёку ад свае вёскі, сяляне са Скупава рамантавалі адрэзак непраезднай дарогі. Маладыя і пажылыя жыхары Ляшукоў, Міхнаўкі і Кардону супольна з трактарыстамі з Ляўкова Новага, Міклашэва, Семяноўкі і Тарнопаля навезлі жужалю і выраўналі палатно дарогі з Ляшукоў у Міхнаўку. Тут працавала больш 40 асоб.

Прадукцыйны пачын правялі керамікі з ляўкоўскай фабрыкі. Чыгуначнікі нараўчанскага вузла ПКП пракладалі новую чыгунку.

Тэкст і фота **Я. Цялушэцкага**



*Грамадскі пачын пры рамонце дарогі з Ляшукоў у Міхнаўку. Ідзе згрузка жужалю з трактарных прычэпаў.*



*Пагрузкай жужалю на трактары займаецца рабочы керамічнага завода ў Ляўкове С. Саевіч.*

Беларуская літаратура — Аляксандр Баршчэўскі

## НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

### АЛЕСЬ ГАРУН — ЧАСТКА XXXI

**Драматургія.** П'еса „Хлопчык у лесе“ гэта адзін з даўжэйшых драматычных твораў Гаруна. Выступае ў ім даволі вялікая колькасць персанажаў і даволі складаная драматычная падзея. Характэрна і тое, што ў гэтым, найбольш фантастычным драматычным творы Гаруна выступае вельмі рэалістычны загаловак. Наколькі ўжо ў загалоўках наступных дзвюх п'ес Гаруна „Шчаслівы чырвонец“ і „Дзіўны лапаць“ выступае нейкая нязвыкласць, пэўная заяўка, што будзем у іх мець дачыненне з незвычайнымі падзеямі, настолькі ў загалоўку „Хлопчык у лесе“ няма нічога незвычайнага. Ён поўнасцю рэалістычны, а якраз у „Хлопчыку ў лесе“ маем дачыненне з найбольшым насіленнем фантастычнага і чарадзейскага элементу.

П'еса „Хлопчык у лесе“ гэта твор, моцна звязаны сваёй істотай і сваімі стылістычнымі і фармальнымі прыёмамі з фальклорам. Аднак не ва ўсім. Галоўнымі героямі твора з'яўляюцца чалавечыя постаці і расліны, якія прымаюць непасрэдны і актыўны ўдзел у жыцці чалавека. Як вядома, адухаўленне раслін і іх свядомае „супрацоўніцтва“ з чалавецтвам мала характэрна для беларускай народнай казкі. Беларускі празаічны фальклор надзвычай часта выкарыстоўвае свет звяроў, абдзяляючы яго прадстаўнікоў духоўнымі якасцямі, характэрнымі для чалавека. Пры гэтым беларуская казка вельмі рэдка пераносіць уласцівасці характару чалавека на дрэвы і расліны. Як бы насуперак гэтай фальклорнай традыцыі два беларускія пісьменнікі — Гарун у „Жывых казках“ і Колас у „Казках жыцця“ сцерлі мяжу паміж чалавекам і раслінамі. Такім чынам, можам гаварыць аб узбагачэнні прыёмаў, аб расшырэнні граніц фальклорнай алегорыі.

Вяртаючыся да п'есы „Хлопчык у лесе“, трэба сказаць, што гэты твор мае цікавую інтрыгу. Істоту яго зместу можна ўпрошчана звесці да наступных фактаў. У першым акце паказан хлопчык, які заблудзіўся ў лесе. Хлопчык засынае і пачынаецца над ім дзівосны танец кветак, якія радзяцца над тым, як дапамагчы хлопчыку. Урэшце Ружа гаворыць сваім сяброўкам-кветкам:

*Ну, значыць, вы сказалі ўсё,*
*Што думала і я;*
*Іначай я сама бы не зрабіла.*
*Дык слухайце: вось тут на гэтым мейсцу,*
*Дзе мы стаім,*
*Вялікі скарб закопаны; яго*
*Дзіцяці аддамо, каб меў з чым жыць.*
*І каб умеў шчаслівым быць.*

У другім акце бачым каралеўства чараўніка, які пакраў вясковых дзяўчат і загадаў ткаць залатыя і сярэбраныя тканіны. У гэта каралеўства пападае хлопчык. Зняволеныя дзяўчаты просяць хлопчыка сарваць зачараваную ружу. Зрабіўшы гэта, хлопчык дастаецца да шкатулкі, у якой знаходзіцца чарадзейская жалейка. Іграе на жалейцы і праганяе злога чараўніка. Вызваленыя шчаслівыя дзяўчаты дораць хлопцу клубочак, які пакажа яму дарогу дамоў, пояс, які дадасць яму сілы, кудзелю, якая ператворыцца ў лётаючы кілім, зярняты, з якіх вырасце залаты лён, шапку-нявідку, боты-скараходы.

У трэцім акце сітуацыя падобная, як у першым. Вокал заснуўшага хлопчыка зноў знаходзяцца кветкі. Хлопчык прачынаецца і паяўляецца ў лесе яго маці. Аказваецца, што ўсё, што яму прыснілася, гэта праўда. Высвятляецца, што маці яго пакінула ў лесе намерана. Не мела яго чым карміць і таму рашыла пазбыцца дзіцяці. Матчынае сэрца аднак прывяло яе зноў да сына. Багатая і шчаслівая маці і сын вяртаюцца з лесу дахаты.

З усяго сказанага відаць, што ў „Хлопчыку ў лесе“ аўтар выкарыстаў многія прыёмы беларускіх народных казак. Да тыпова казачных прыёмаў належыць матыў дзіцяці, пакінутага бацькамі ў лесе, матыў чараўніка, які знявольвае дзяўчат, матыў ботаў-скараходаў, кіліма-самалёта і г.д.

І нягледзячы на тое, што выступаючыя ў п'есе ачалавечаныя кветкі як бы пярэчаць традыцыям беларускай казкі, то ўсе іншыя элементы твора моцна падкрэсліваюць яго сувязь з прынцыпамі казачнага фальклору.

П'еса „Хлопчык у лесе“ сцэнічная, жывая, досыць дынамічная. Многа ў ёй нечаканых паваротаў, сітуацый, маляўнічасці. Цікавы струмень жывой беларускай мовы. Твор добра дапасаваны да дзіцячых уяўленняў аб свеце.

# ТРЫБУНА чытачоў

## Гісторыя з гарадоцкага ГСКР

Было так: з вёскі Дзернякова ў Гарадок прывезлі старую малацілку і далі абмалотачнаму Юрку Пепельскаму, з якім я дагаварыўся аб тэрміне маёй малацьбы. Падрыхтаваўся, людзей паклікаў памагчы (бо ў нас адзін аднаму памагаюць). І аказалася, што машына разбіта і стаіць на варштаце, а на варштаце ніхто не спяшаўся рамантаваць яе. Давай я прасіць другога абмалотачнага, каб машыну прывёў у Гарадок. І змалаціў з такімі прыгодамі збожжа.

Прыйшоў час капаць бульбу. Я звярнуўся да дыспетчара з пытаннем, калі дасць машыну (у маёй умове гэтакая паслуга запісана). Вызначыў дыспетчар дзень і сказаў, каб раніцай зайшоў. Праўда, атрымаў на першы і другі дзень бульбакапалку. Але кожную раніцу трэба было хадзіць да дыспетчара і пацвярджаць, што бульбакапалка будзе патрэбная. Таксама прыходзілі і іншыя людзі.

У мінулым годзе трактары з капалкамі выходзілі ў поле а 5 гадзіне раніцы і да гадзіны 7 усім бывала навыворваюць ужо бульбы. А ў гэтым годзе — а 6 гадзіне, а некаторыя нават а 10 давалі машыну. І калі хто не прыдзе на другі дзень, дык дыспетчар не высылаў ужо да яго трактара з капалкаю. Людзі бегалі штодзень да дыспетчара, пільнавалі таго трактара, каб хоць прыехаў. Узнікла мітусня, непатрэбныя нервы, а ўсё з-за беспарадку.

**Грозны**

## Птушыная ферма ў Зубаве

Птушыную ферму ў Зубаве пабудавалі ў 1965 годзе. Яе кіраўніком з'яўляецца Грыша Кананюк. Свае абавязкі выконвае ён добрасумленна і дакладна. На ферме працуе 7 асоб на дзве змены. Працы тут шмат. Кожныя дзесяць нядзель ёсць 4 накіды па 21 тысячу куранят кожны.

**Джэны А.**

## ПАРНАСік
### Чытальніцкая літсуполка на негарантаваных паях

**Сэрца**

*Без цябе кветкі не растуць*
*Без цябе сонца не свеціць*
*Сэрца!*
*Заўсёды будзь сэрцам*
*Скідай камень іншаму сэрцу*
*Сэрца!*
*Будзь заўсёды няспынным*
*Твой рытм рытмам жыцця*
*Сэрца!*

**Янка Брацкі**

Прыбыўшы разам з папаўненнем у стралковы полк, Блішчынскі неяк не пайшоў у батальён. Пэўна, як мастака яго ўзяў да сябе начальнік артылерыі — там трэба было шмат што чарціць і прыгожа пісаць, а на тое Блішчынскі ўжо стаў сталы майстра. Так ён і прыжыўся пры штабе — насіў афіцэрам снядання, уранку паліваў ім з кацялка ваду, клапаціўся пра ўтульнасць іхніх зямлянак, а астатні час знаўся з паперамі. І з усім, відаць, ён спраўляўся някепска. Калі пачалося наступленне і Цімошкін з прастрэленай голенню трапіў у медсанбат, Грышка ўжо меў медаль „За баявыя заслугі", да яго неўзабаве прыбавіўся „За вызваленне Белграда", у які ён уехаў на штабной машыне.

Цімошкін бачыў усё гэта, абураўся ў душы, але на людзях маўчаў. Ён думаў — чорт з ім, кожнаму сваё, урэшце, не Блішчынскі, дык хто іншы сядзе на тое месца ў штабе, бо патрэбны і пісары. Зноў жа, ці добра было хадзіць да начальства, нешта даказваць, выкрываць — усё ж як-ніяк яны былі землякі, свае людзі. Праўда, Цімошкін не меў да яго ніякае справы, у хлопца былі свае харошыя сябры, і ён толькі хацеў, каб гэты чалавек ні ў чым не датычыў яго. Але вось недарэчны вайсковы лёс звёў іх на адной сцяжыне, і Цімошкін падумаў цяпер, што з гэтага наўрад ці выйдзе што добрае.

(Працяг будзе)

## Пасля палявых работ

Адплыло лета. Мала ўжо лісця на дрэвах. Дні кароткія. Прыйшоў час, калі селянін можа адпачыць, пагутарыць спакойна ў сямейным кругу. А гутарка ідзе аб усім. І аб сёлетнім ураджаі, і аб палявых работах увосень. Многія сяляне кажуць, што сёлета добра прайшло капанне бульбы і буракоў. Людзі, навучаныя восенню 1974 года, узяліся за капанне рана. Большасць сялян капала машынамі. Да горшай пагоды бульба была ўжо выбрана. Пасля прыйшоў час на буракі і бручку. Буракі таксама многія капалі капалкамі. Летам было многа вільгаці ў зямлі, і буракі сядзелі амаль наверсе, так што і рукамі зусім лёгка было іх рваць. А ўрадзілі, як ніколі! Вось у Георгія Дзем'янюка вырас бурак у 9 кілаграмаў і 5 дэкаграмаў.

Таксама асеннія пасевы прайшлі добра. Сяляне і сеялі раней, чым заўсёды — ураджай будзе лепшы. А за зіму людзі памалоцяць, адпачнуць і зноў вясной пачнецца праца ў полі.

**Валянцін Анапюк**

## Што рабіць з вугальным пяском?

Які вугаль найбольш купляем? Вядома, добры! Каб быў бліскучы і без пяску. А што зрабіць, калі маеш вугаль III гатунку, у якім заўсёды больш пяску? Пясок ад вугалю таксама добрае топліва, толькі трэба ўмець яго спажыткаваць. Робім гэта так: збіраем пясок ад вугалю ў асобнае вядро, заліваем яго вадой і размешваем. Павінен ён быць не занадта мокры, а толькі вільготны. Найлепш даваць на паўвядра пяску паўлітра вады.

Печ распальваем добрым топлівам і, калі застанецца ўжо толькі недапалевы чырвона-белы вугаль, тады на яго сыплем 2-3 лапаткі вільготнага пяску з вугалю. У печы тады ззаду, за вугалем, узнікае газ і, калі ён загарыцца ясным доўгім полымем, добра напаліць печку. Памятаць толькі трэба, каб дзверы ад печы, калі гарыць пясок, не замыкаць шчыльна, бо газ у печы можа выбухнуць.

**М. Матвеюк**

## Яна і вучыцца, і працуе добра



Галіна Панасюк з'яўляецца вучаніцай трэцяга класа Тэхнікума сельскагаспадарчага рахункаводства, што ў групе сельскагаспадарчых школ у Бельску Падляшскім. Яна член вучнёўскай спулдзельні „Дружба" з 1973 года. Ад студзеня гэтага года выконвае функцыю касіра. Праз яе рукі праходзіць амаль кожны дзень звыш тысячы злотых, а часта сума дасягае і 10 тысяч. Сваю функцыю выконвае дзяўчына вельмі ўмела. Яна таксама выпісвае і бухгалтарскую дакументацыю на грошы, якія праходзяць праз яе рукі. Пры гэтым цесна супрацоўнічае з ПКО.

Галіна і вучыцца добра. Па сваіх паводзінах з'яўляецца прыкладам іншым.

**Мікалай Няплоха**

## Святло на чалавека!

На вакзал ПКП у Гайнаўцы даедзеш вуліцай Дварцовай. А яе некалькі год таму назад перабудавалі і залілі асфальтам. Каб была тут поўная бяспека, побач з маставой для машын зрабілі тратуар для пешых. Але ўсю вуліцу асвятлілі на адзін бок — толькі тую частку, па якой ездзяць машыны, а пешаходам увечары трэба ісці ўпоцемкі.

Здаецца, навошта асвятляць вуліцу машынам? Яны ж самі сабе пасвецяць. Трэба асвятліць тратуар!

Калі гарадское ўпраўленне не мае грошай на новыя светавыя пункты, можна тыя самыя лямпы павярнуць назад і яны будуць свяціць на тратуар.

**Раса**

## У Боцькаўскай гміне

У Боцькаўскай гміне налічваецца 31 вёска, (не ўлічваючы малых хутароў, дзе няма солтыса). Начальнікам гміны з'яўляецца тут мгр інж. Кастусь Санкевіч. Працу ў Боцьках распачаў у чэрвені гэтага года. Ён ужо трэці па чарзе начальнік у гэтай мясцовасці. І хоць начальства мянялася, людзі заставаліся людзьмі. Трэба сказаць, што народ тут дзелавіты. Гаворыць І сакратар гміннага камітэта ПАРП Віталі Ляўчук:

— Жыхары нашай гміны вельмі многа працуюць на карысць свайго асяроддзя. Вось некаторыя дадзеныя аб нашых поспехах. Пабудова дарогі з Скалімова ў Бадачкі: кошт 500 тыс. зл., жыхары вёсак далі ўклад на суму 200 тыс. зл. У Снежках: інвестыцыі на 560 тыс. зл., уклад насельніцтва — 150 тыс. зл., у Старовсі — 220 тыс. зл., насельніцтва — 137 тыс. зл., у Красным Сяле праца жыхароў ацэнена на 115 тыс. зл., у Андрыянках — 90 тыс. зл. Пабудавалі таксама дарогу з Боцек у Альшэва, у Сасінах і Дзяцінным грамадскім чынам пабудавалі святліцы.

Усяго ў І паўгоддзі ў Боцькаўскай гміне выканалі працу на 3 мільёны 604 тысячы злотых. Грамадская праца людзей раўняецца 1 мільёну 762 тысячам зл.

— Як вы дасягнулі такіх поспехаў?

— Усе дасягненні — гэта вынік працы нашай гміннай партыйнай арганізацыі, гэта грамадзянскі дар жыхароў.

— Колькі членаў партыі ў вас?

— Цяпер 335 членаў і кандыдатаў. Да канца года, спадзяемся, будзе 400. Дадайце, што ў нас добра працуе і ОРМО. Налічвае 109 членаў. У гэтым годзе прынялі 30 членаў.

Столькі сакратар. А я яшчэ пару слоў: старшынёй грамадскага камітэта ОРМО з'яўляецца тав. Віталі Ляўчук — І сакратар ГК ПАРП у Боцьках.

**Ул. Сідарук**

### ЦІ ХУТКА?

Гаспадарчы будынак пры агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы будуецца ўжо тры гады. Колькі яшчэ пройдзе часу, пакуль яго закончаць? **Марко**




**Валянцін Анапюк.** Вы пішаце многа і добра. І ўсе матэрыялы ідуць. Вось толькі цяпер не дамо пра конкурс ПКО. Пра ўмовы конкурса мы атрымліваем інфармацыю непасрэдна ад ПКО, а калі вам пісаць, дык просім вельмі канкрэтна і з вашага раёна. Адносна ж ПКС — таксама трэба вельмі дакладна. Ёсць клопаты з ПКС-амі і пра іх мы ўжо вельмі многа пішам. Таму старайцеся не паўтарацца і толькі факты падаваць. Дзякуем за плённае супрацоўніцтва і просім далей так.

**Марко.** Вас просім крыху больш развіваць свае думкі і факты ў інфармацыях. Больш аргументацыі. Чакаем матэрыялаў.

**Рыгор Семянюк.** Неўзабаве ўжо атрымаеце адказ на вашы пытанні аб пакупцы зямлі і аб рэнце.

**Дзядзька Квас.** Ваш верш „Іванюк" рашылі надрукаваць. Спадзяемся, што вы пішаце аб звычайным іванюку праз малое і, а не аб канкрэтным. Проста даеце адзін малы прыклад. У іншым выпадку можаце спадзявацца неспадзяваных рэакцый.

### ДЗЕ? ШТО? КАЛІ?

Вечарам 24 кастрычніка ў Мікалая Р. у Гайнаўцы на вул. Падляссе загарэўся дом. Шчасце ў няшчасці, бо згарэў толькі дах, але і так затраты складаюць суму 30 тыс. зл.

А на наступны дзень таксама ў Гайнаўцы Францішак С. з Гайнаўкі сваёй „Сірэнай" наехаў на дрэва. І ён сам, і яго пасажыр пакалечыліся здорава і папалі ў бальніцу.

А ў Боцьках 26.10. Юзэф Ф. ехаў матацыклам вельмі рана — а 4 гадзіне і наехаў на ляжаўшую ўпоперак вуліцы жэрдку. Пакалечыўся і папаў у бальніцу.

У Падазеранах, гміна Гарадок, Юрка Б., едучы на матацыкле, наехаў на ідучага вуліцай Ёсіпа К. Абодва паранены.

20.10 вечарам на дарозе паміж Шудзялавам і Паўночным Востравам Веслаў В. ехаў „Жукам" Шудзялаўскага СКР. Наехаў на пешахода Уладзіміра П., 40 год, з Паўночнага Вострава і забіў яго на месцы.

## Крытыка не памагла

Ужо не раз пісалі пра дарогу Кнаразы-Храбалы. Раскапана, гурбы параскіданага пяску! Ці так павінна быць? Сам чорт тут галаву і ногі скруціць. Чаму ўсё ж такі ніхто не зацікавіцца гэтым і, што найважнейшае, няма адказу на нашу крытыку? А можа гэтую дарогу пачалі ладзіць духі, а не людзі?

**Джэны А.**

### У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

### І ХТО Ж ТУТ ВІНАВАТЫ?

**Адказвае Аддзел ВСС у Бельску Падляшскім.**

W odpowiedzi na notatkę zamieszczoną w gazecie „Niwa" w dniu 2.IX.1975 r. pod tytułem „Kultura przy piwie", Dyrekcja WSS Oddział w Bielsku Podlaskim wyjaśnia, że bary objazdowe, które ustawiają się i dokonują sprzedaży w okolicv pijalni piwa przy ul. Krynicznej, są własnością prywatną i nadzór sprawuje Urząd Miejski, który może wpłynąć na ich warunki pracy i estetykę sprzedaży.

Natomiast jeśli chodzi o pijalnię piwa przy ul. Krynicznej, to wprowadziliśmy z dniem 1.X.1975 r. zakaz konsumpcji piwa w butelkach, wprowadzając konsumpcję wyłącznie w kuflach. W butelkach dokonuje się sprzedaży piwa tylko na wynos.

**Zastępca Dyrektora Bazyl Waszkiewicz**

Як бачым з вышэй вытлумачанага, на тэму аб'яздных бараў павінна нам яшчэ адказаць Упраўленне горада Бельска. Пачакаем.

*

### УЖО ЛЕТА ПРАЗВІНЕЛА

Пад такім загалоўкам у 39 нумары ад 28 верасня была змешчана публікацыя пра дарогу ў Кнаразы. Адказ на яе прыслаў нам начальнік гміны ў Храбалах.

W odpowiedzi na wasze pismo z dnia 29 września 1975 r. Naczelnik Gminy Chraboły informuje, że fundusze na budowę drogi do wsi Knorozy zostały przelane wykonawcy — Zarządowi Dróg Lokalnych w Bielsku Podlaskim w dniu 20.09.1975 r.

W rozmowie telefonicznej w dniu 7.10.1975 r. Kierownik Zarządu Dróg Lokalnvch poinformował Naczelnika Gminy, że do budowy drogi przystąpią w bieżącym miesiącu.

Przerwa w kontynuowaniu prac drogowych nastąpiła z powodu naprawy szkód na drogach lokalnych, wyrządzonych przez obfite opady w miesiącu lipcu bieżącego roku.

**Naczelnik Gminy w Chrabołach**
**inż. Włodzimierz Lewko**

*

### З ЛУШЧОЎ У ЧЫЖЫ

І яшчэ пра адну дарогу — з Лушчоў у Чыжы. Пра яе пісаў карэспандэнт у заметцы „Дарога падобна на роў" у 34 нумары ад 24 жніўня. Прапанаваў, каб людзі таксама супольным чынам паправілі гэтую дарогу. А вось што адказвае нам на гэту тэму начальнік гміны ў Чыжах.

... W ostatnich latach w gminie Czyże wiele zrobiono na odcinku budowy i modernizacji dróg. Między innymi na drodze Czyże—Łuszcze wybudowano przepust, zakończono w bieżącym roku budowę 3 km drogi Zbucz—Morze oraz kontynuuje się budowę drogi Czyże—Rakowicze.

Budowa i modernizacja dróg wymaga ogromnych wydatków finansowych. Środki z funduszu gminnego oraz prace niefachowe wykonane przez ludność w ramach czynów społecznych nie pokrywają w całości występujących potrzeb.

Z tych też względów w chwili obecnej brak jest możliwości budowy względnie remontu wspomnianej drogi. Wychodząc jednak naprzeciw postulatom mieszkańców, remont drogi Czyże—Łuszcze ujmie się w planie społeczno-gospodarczym rozwoju gminy na lata 1976—80. Przyspieszenie zaś realizacji tej drogi może nastąpić jedynie z chwilą przystąpienia miejscowej ludności do czynów społecznych na wspomnianym obiekcie.

**Naczelnik Gminy B. Nowik**

„Niwa" — Skr. poczt. 149. 15-950 Białystok. TELEFON 2-32-41. Wydawca Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe RSW w Białymstoku. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu", urzędy pocztowe i listonosze. Indeks 36911/36671.

З БЕЛАРУСКАГА ГУМАРУ

## Рэстаран на буксіры

Рэстаран, можна сказаць, не толькі дыміўся, але ўжо і гарэў. На корані. Кухня напякла трыста катлет, дзвесце шашлыкоў, наварыла тры чаны макарону, а наведвальнікі не з'елі і трэцяй часткі гэтага. Што рабіць? Вядома, прапанавалі іх і на наступны дзень. Ды наведвальніка цяпер не падманіш, ён па паху пазнае, які боршч — свежы ці ўчарашні.

— Гарым, браточкі, гарым! — лемантаваў шэф-кухар.

— А план жа, план! — падносіў да вачэй насоўку дырэктар. І тут да яго наблізіўся нізенькі чалавек з невыразным тварам.

— Вы — хто? — строга спытаў дырэктар.

— Кніга скаргаў і прапаноў на праверцы, — паспешліва дадаў шэф-кухар.

— Я са сваёй кнігай, — адказаў чалавек з невыразным тварам. — І не скардзіцца, а дапамагчы вам хачу.

— Вы ведаеце пра наша гора? — у адзін голас спыталі дырэктар і шэф-кухар.

— А як жа, цэлы тыдзень ужо ў вас леташнімі стравамі харчуюся.

— Зразумела, але... што ў вас за кніга?

— Мая — Рукапісная. У ёй — усе навіны для вашага рэстарана, які я ахвотна бяру на буксір.

— Ганарар? — па-дзелавому зірнуў дырэктар.

— Вядома. Ён павінен быць трохзначным, а першая лічба... ну, няхай сабе „7".

— Пяць! — камерцыйна паправіў дырэктар.

— Сем! — стаяў на сваім чалавек невялікага росту.

— Пяць з палавінай! — вынаходліва падказаў шэф-кухар.

— Што з вамі зробіш! Але ганарар на бочку.

Дамовіліся, і чалавек з невыразным тварам пачаў:

— Вось у вас засталося, скажам, сто ўчарашніх катлет.

— Сто! — усклікнулі гаспадары.

— Вы нічога з імі не рабіце, нават не падагравайце, а назавіце іх у меню „Успамін аб мінулым". Біфштэкс...

— Ага, біфштэксы!

— Можа так — „Год да ста расці..."

— А макароны?

— „Жэньшэнь".

— А шашлыкі?

— „З агню ды ў полымя..."

Добрых пяцьсот новых назваў прадаў чалавек невялічкага росту. І рэстаран перастаў не толькі гарэць, але нават і дыміцца. Бо наведвальнікі сталі рабіць за адзін заход па некалькі заказаў. Кожнаму ж ёсць што ўспомніць, кожны імкнецца даўжэй пражыць, пазбавіцца ад той ці іншай хваробы і, урэшце, зноў паспрабаваць свае сілы, загартаваць іх у агні.

**Браты Бароўкі**



— *Перастань сігналіць, а то разбудзіш маю жонку!*

# НІЎКА



— *Я сабе Венеру ўяўляў крыху іншай.*

З народнага

### Гусак і Жаба

*Прыйшоў да возера аднойчы*
*Гусак паважны, ганарлівы*
*І толькі меўся ў хвалі скочыць,*
*як Жаба крумкнула дражліва.*
*Гусак угневаўся на гэта*
*і Жабе даў заўвагу тут жа:*
*— Ты што, працiўная Жабэта,*
*сквірчыш тут, быццам дзе ў калюжы?!*

*І хто ты ёсць?*
*І што ты можаш?*
*Хіба ўскараскацца на лотаць.*
*А я —*
*і плаваю прыгожа,*
*магу спяваць,*
*хадзіць*
*і лётаць...*
*Жабэта добра зразумела*
*ўсю ганарлівасць гусакову*
*і адказала зразумела*
*на самахвальную прамову:*
*— Так-так, Гусак!*
*З табой я згодна:*
*ты пачынаеш спраў нямала.*
*Але, на жаль, няма ніводнай,*
*якую б скончыў дасканала.*
*Хоць я плывуння і слабая,*
*ды паспрабуй здагнаць мяне ты!*

*. . . . . . . . . . .*

*Пакуль Гусак адплыў ад краю,*
*далёка дзесь была Жабэта...*

**Уладзімір Дубоўка**

### ВЫЙГРЫШ

Адзін габравец пахваліўся другому, што кожны раз, калі разыгрываецца тыраж дзяржаўнай латарэі, ён выйгрывае пяцьдзесят стацінак, бо не купляе латарэйных білетаў.

— Дык пачастуй мяне на выйгрыш! — прапанаваў другі.

### У ЗВЯРЫНЦЫ

— Тата, а сланоўскі бацька цягае сланят за вуха?

— Не.

— Вось шкада! Такія вушы прападаюць дарма.

### ЗДЗІВІЎСЯ

Абібока прагналі з работы за бяздзейнасць.

— Ідзі працаваць, куды хочаш.

— Думаеце, што ў іншым месцы я буду што-небудзь рабіць? — здзівіўся той.

### КЛАПАТЛІВАЯ ЖОНКА

— Што б ты рабіла, калі б не трэба было мыць падлогу і выбіваць дываны?

— Прыдумала б што-небудзь іншае.

— Для каго?

— Вядома, для мужа.

### НЕ ПРЫКМЕЦІЛА

Жонка пытае мужа:

— Чаго гэта ты сёння такі маўклівы? Бывала, як разгаворышся, дык і не спыніш, а гэта...

Сынок здзіўлена:

— Ці вы, мама, не бачыце, што тата сёння цвярозы?





*Без слоў.*



**...Пагоню за славаю давялося прыпыніць. Далася ў знакі слабая фізічная падрыхтоўка.**

**...Ён мяняў пункт погляду на пункт апоры.**



ДЫЯЛОГ.

## Між намі

*Вучыцца ніколі не позна. Асабліва на ўласных памылках.*

### САКРЭТ

Сяброўкі размаўляюць:

— Спадзяюся, ты нікому не расказала аб маёй сустрэчы з Алесем?

— Зразумела, не, мая дарагая, дык я ж не ведала, што гэта сакрэт?

### ДАЗВОЛ

— Ці маглі б вы пазычыць свой пыласос?

— На жаль, муж катэгарычна забараняе выносіць рэчы з дому. Але, калі хочаце, можаце карыстацца ім у нашым доме.




### НЕ ВЫКАНАЎ

Было гэта ў царскай арміі. Выклікаў афіцэр салдата ды й гаворыць:

— Пойдзеш у разведку і назначыш на карце ўсе стратэгічныя аб'екты праціўніка. Зразумеў?

— Зразумеў, — казырнуў салдат.

Наступнага дня вярнуўся ён з разведкі ды й дакладвае:

— Пане афіцэр, вашага задання не выканаў.

— Чаму!? — абурэецца афіцэр.

— Ды забыў вам сказаць, што я непісьменны.

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Галіны Парфенюк з Яцэвіч, Валянціны Магрук са Збуча, Ірэны Кузьмы з Піражкоў, Галіны Юзвюк з Барысаўкі змяшчаем песню*

## Idzie miłość

**słowa: Andrzej Kudelski**
**muzyka: Włodzimierz Korcz**
**śpiewa: Irena Santor**

Zatrzymajcie samochody, zatrzymajcie tramwaje,
Zatrzymajcie cały ruch.
Przez największe skrzyżowanie idzie miłość,
Idzie miłość, idzie miłość
Najgłówniejszą idzie z dróg.

Wołajcie, krzyczcie na jej cześć
Niech żyje miłość, życia treść
Niech żyje miłość, niech żyje miłość
Na całe gardło krzyczcie tak
Niech żyje miłość, jeszcze, jeszcze raz
Niech żyje miłość, niech wiecznie trwa.

Zamykajcie wszystkie sklepy, zamykajcie urzędy
Dzień świąteczny nastał nam
Samochodem wniebowziętym jedzie miłość,
Jedzie miłość, jedzie miłość,
Zróbmy z kwiatów milion bram.

Wołajcie...

Zakładajcie garnitury, najpiękniejsze sukienki
i szykujcie się na ślub
Proście gości już weselnych, przyszła miłość,
Przyszła miłość, przyszła miłość
Wnet uderzy nam do głów.

Wołajcie...



— *Зноў твая любімая каманда прайграла?*

# Курёзы

### „БРАТ" ЖАНІХА

Тасіо Сімідзу, малады японец, знайшоў арыгінальны спосаб разбагацець. Ён пачаў хадзіць на вяселлі. Назваўшыся братам жаніха, махляр, выбраўшы момант, пакідаў вяселле, прыхапіўшы з сабой грашовыя прынашэнні маладым.

Такійскай паліцыі доўга не ўдавалася натрапіць на след самазванца. Дапамог выпадак — жулік аказаўся знятым на адной з вясельных фатаграфій.

Як заявіў прадстаўнік паліцыі Токіо, на працягу паўгода самазваны „брат" пагуляў такім чынам на васьмі вяселлях, прысвоіўшы ўвогуле 14 тысяч долараў.

### ВОСТРАЯ КАЛЕКЦЫЯ

Калекцыі брытваў берлінскага пенсіянера Паўля Рыхтэра хапіла б, бадай, каб пагаліць мужчынскае насельніцтва невялікага горада. У яго распараджэнні цяпер звыш 13 тысяч брытвенных лязоў з 76 дзяржаў свету. Самы старажытны экземпляр — брытва фірмы „Жылет" 70-гадовай даўнасці.

Калекцыя берлінца займае 30 вялікіх альбомаў для паштовых марак. 78-гадовы Пауль Рыхтэр працягвае займацца сваёй любімай справай: ён абменьваецца лязамі з калекцыянерамі з ГДР, Швецыі, Галандыі і Англіі.

### ЦЁЗКІ

Моцарт, калі яму было сем гадоў, даваў канцэрт у Франкфурце-на-Майне. Да яго падышоў падлетак чатырнаццаці гадоў і сказаў:

— Як цудоўна ты іграеш! Мне ніколі так не навучыцца.

— Чаму ж?.. Паспрабуй, а калі не выйдзе, то пішы музыку.

— Я пішу вершы.

— Гэта таксама вельмі цікава! Пісаць вершы, напэўна, куды больш складана, чым музыку?

— О не! Паспрабуй сам.

Субяседнікам Моцарта быў яго цёзка Гётэ.